ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 13 (2592)
ПЯТНІЦА
31
сакавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# ДРУГ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ...








Народны пісьменнік БССР Міхась Лыньноў адкрывае Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі.



Вядомая пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Зоя Васкрасенская «ў дзіцячым палоне».



Пакупнікі «атакуюць» кніжны кіёск.



Аўтограф дае госць з далёкай Кіргізіі Ісабек Ісакаў.



Іван Шамякін перадае эстафету Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі пісьменніку з Казахстана Жапару Амірбекаву.

Фота Ул. КРУКА.



Маскоўскага пісьменніка Юрыя Якаўлева беларускія дзеці ведаюць і па яго кнігах, і па фільмах «Пушчык едзе ў Прагу», «Мы з Вулканам».

Яркім, радасным святам прамільгнулі дні Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі. Яго эмблема—сімвалічны карабель ведаў і рамантыкі пад парусам-кнігай—разам з эмблемай Міжнароднага года кнігі аздабляла афішы і вітрыны, фасады кнігарань, бібліятэк і тэатраў. Урачыстае адкрыццё Тыдня адбылося ў Беларускім тэатры оперы і балета. Гасцінным гаспадаром свята, якое пачалося тэатралізаваным «Падарожжам у цудоўную краіну кніг», быў наш даўні знаёмы Несцерка. Дарагіх гасцей з братніх рэспублік хлебам-соллю віталі дзеці Мінска. Яны ж былі галоўнымі акцёрамі прыгожага відовішча, у якое вылілася прадстаўленне (аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык В. Грушо, вершы А. Вольскага і П. Макаля). Мы ўбачылі яркія танцы і тэатралізаваныя гульні, дзе разам з дзецьмі выступалі на сцэне героі іх любімых кніг — Дон-Кіхот і тры мушкецёры, Іван-царэвіч і Міколка-паравоз, Цімур і Беласнежка і сем гномаў... А ў фае на вітрынах выстаўкі было паказана самае лепшае з таго, што выдалі дзіцячыя выдавецтвы рэспублік.

Свята «кніжчыных імянін» прайшло па ўсёй Беларусі, у ім прынялі ўдзел нашы пісьменнікі і госці, якія выязджалі ў вобласці і раёны. У Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся сімпозіум на тэму «Праблемы інтэрнацыянальнага выхавання ў дзіцячай літаратуры». Праз год такое свята будзе ў Алма-Аце...

Слова пісьменнікаў—удзельнікаў Тыдня чытайце на стар. 2—3.

# НЕЗАБЫЎНЫЯ ЎРАЖАННІ

**Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ,**
народная артыстка СССР

ЗАМАЦОЎВАЮЦЦА творчыя сувязі паміж тэатральнымі аб'яднаннямі нашай краіны. Усё часцей наладжваюцца сустрэчы артыстаў, рэжысёраў, мастакоў розных рэспублік для сумеснага абмеркавання агульных праблем і канкрэтных з'яў мастацтва сцэны. Мінск— Масква— Ленінград... Гэта — маршрут частых паездак актывістаў БТА, а мы ў сваю чаргу гасцінна прымаем калег з Расіі, Літвы, Украіны, Малдавіі...

У гэтыя дні вялікая група беларускіх артыстаў жыве ўражаннямі ад выступленняў перад патрабавальнымі аўдыторыямі нашых маскоўскіх і ленінградскіх сяброў. За чатыры дні наш спецыяльна для гэтага сфарміраваны калектыў паказаў вялікую праграму ў Доме акцёра, у цэхах завода імя Ленінскага камсамола і ў Доме ветэранаў сцэны імя А. Яблачкінай у сталіцы нашай краіны і, пераехаўшы «Стралой» у горад над Нявой, у Ленінградскім аддзяленні Саюза кампазітараў РСФСР і ў Доме ветэранаў сцэны імя М. Савінай.

Сказаць, што нашых пасланцаў прымалі цёпла—мала. Аўдыторыі і прафесійна падрыхтаваных гледачоў, і рабочыя (у абедзенным перапынку, непасрэдна ў цэхах) горача, з энтузіязмам апладзіравалі драматычным артыстам і оперным спевакам, танцоўшчыкам балета і чытальнікам. Маскоўскія аўтазаводцы літаральна «не адпускалі» нашых выканаўцаў са сцэны.

А колькі шчырых і непасрэдных размоў, гутарак, спрэчак! Асабліва тады, калі з намі сустракаліся калегі—артысты славутых сцэн Расіі, кампазітары, каб сказаць сваё слова пра мастацтва беларусаў. Акрамя кветак (што так радавала ўсіх нас у даволі халодныя дні!), былі сталыя ацэнкі, добразычлівы аналіз, удзячныя водгукі. Запомнілася такая, скажам, фраза: «Каб паслухаць спевакоў, варта цяпер паехаць у Мінск...» Хвалявала гэта і таму, што чулася з вуснаў дасведчаных майстроў—Царова, Зуевай, Мансуравай, Талубеева, Смірнова, Шатровай, Торскага і іншых яркіх прадстаўнікоў савецкага мастацтва.

Мушу адзначыць, што напружана і натхнёна давялося папрацаваць нашым купалаўцам, якія паказвалі сцэны з «Канстанціна Заслонава», «Лявонiхі на арбіце» і «Рудабельскай рэспублікі», артыстам оперы і балета, філармоніі. Не называю ўсіх, бо спіс быў бы вялікі. Але не адзначыць нашага канцэртмайстра В. Багатырскую, якая вельмі тонка і чула вяла ўсе нумары насычанай праграмы, нельга. Таксама і А. Ражбу, якая ўзяла на сябе арганізацыйныя клопаты.

Паездка —адно з мерапрыемстваў БТА да 50-годдзя ўтварэння СССР. Карысць ад яе вялікая. Па-першае, такім чынам нашы артысты пашыраюць межы прапагандысцкай дзейнасці, непасрэдна знаёмячы з дасягненнямі нацыянальнай культуры шырокую аўдыторыю. Масквічы і ленінградцы знаёміліся з сучасным узроўнем нашага сцэнічнага мастацтва. Па-другое, нашы артысты драмы, оперы, балета і эстрады як бы атрымліваюць магчымасць яшчэ і яшчэ раз праверыць сябе перад патрабавальным гледачом. Мабыць, тыя ўражанні, з якімі вярнуліся ў Мінск В. Тарасаў і І. Сарокін, А. Карзянкова і В. Давыдаў, А. Астрамецкі і І. Лакштанаў, Г. Макарава і П. Кармунін і ўсе ўдзельнікі тых незабыўных сустрэч, не застануцца толькі ўражаннямі. Яны дапамогуць артыстам у іх далейшым творчым росце, духоўна ўзбагацяць кожнага. І нешта дарагое ўліецца ў творчасць артыстаў.

# НАВУКОВЫЯ АСНОВЫ КРЫТЫКІ

Праблемам развіцця літаратурна-мастацкай крытыкі і павышэння ўзроўню тэарэтычных даследаванняў у гэтай галіне было прысвечана пашыранае пасяджэнне Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, якое адбылося 29 сакавіка.

Пасяджэнне адкрыў в. а. акадэміка-сакратара аддзялення, член-карэспандэнт АН БССР К. П. Буслаў. З дакладам «Пастанова ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы» і задачы павышэння ўзроўню навуковых даследаванняў па пытаннях тэорыі і метадалогіі літаратуры і крытыкі» выступіў дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Коласа АН БССР акадэмік АН БССР В. Барысенка.

Дакладчык адзначыў, што гэта пастанова развівае тэарэтычныя палажэнні XXIV з'езда КПСС аб ролі літаратуры і мастацтва ў перыяд развітага сацыялістычнага грамадства і будаўніцтва камунізма, прааналізаваў у гэтым святле стан літаратурна-мастацкай крытыкі ў рэспубліцы. Ён падрабязна спыніўся на задачах вучоных, указаў на неабходнасць накіраваць увагу інстытутаў аддзялення на глыбокае вывучэнне праблем тэорыі і метадалогіі літаратурна-мастацкай крытыкі, актывізаваць намаганні вучоных у даследаванні сучаснага мастацкага працэсу.

У спрэчках выступілі доктар гістарычных навук В. Бандарчык, доктар філалагічных навук Н. Пяркін, дактары мастацтвазнаўства У. Няфед, М. Кацар, кандыдаты філалагічных навук П. Дзюбайла, У. Казбярук, В. Каваленка, кандыдат філасофскіх навук У. Конан, кандыдат гістарычных навук П. Петрыкаў, кандыдаты мастацтвазнаўства В. Шматаў і А. Красінскі. Яны падзяліліся думкамі аб шляхах далейшага ўмацавання сувязей навукі з літаратурай, паглыблення вывучэння лепшых нацыянальных традыцый беларускай літаратуры і пытанняў узаемаўзбагачэння брацкіх культур, паляпшэння падрыхтоўкі спецыялістаў у галіне тэорыі літаратуры, крытыкі, кіно, музыкі, тэатра і выяўленчага мастацтва, прапаганды прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізму, партыйнасці і народнасці літаратуры і мастацтва ў барацьбе з буржуазнай ідэалогіяй.

У абмеркаванні даклада разам з вучонымі АН БССР прынялі ўдзел прадстаўнікі рэспубліканскіх газет і часопісаў, Саюза пісьменнікаў і іншых творчых саюзаў рэспублікі, вучоныя кафедраў вну.

**БЕЛТА.**

# ЯКІ БЫЎ ВЕЧАР!

Наша школа запрасіла ў госці артыстаў Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы. Чакалі, але не вельмі спадзяваліся, што так далёка аж за 130 кіламетраў у суботні вечар прыедуць да нас вядомыя артысты. А зараз нам сорамна, што такое думалі. Прыехалі купалаўцы! Рабочыя саўгаса, як даведаліся пра артыстаў, пачалі цікавіцца, дзе білеты купіць, але аказалася, што прыехалі да нас госці проста на сустрэчу і далі канцэрт бясплатна.

І які быў вечар!

Даўно мы не бачылі на нашай саўгаснай сцэне такіх майстроў, як народныя артысты СССР П. Малчанаў, З. Стома, народная артыстка рэспублікі Г. Макарава, заслужаная артыстка рэспублікі А. Рынковіч, заслужаны артыст рэспублікі Б. Уладамірскі, артысты М. Зінкевіч, А. Доўгая, В. Анісенка, М. Казінін.

З. Стома расказаў пра планы тэатра, пра яго сённяшні дзень. П. Малчанаў—пра сваю работу ў тэатры, у прыватнасці, як працаваў над роляю Леніна.

М. Зінкевіч і З. Стома паказалі фрагмент са спектакля «Традыцыйны збор», В. Анісенка і А. Доўгая—з «Паўлінкі», былі паказаны сцэны са спектакляў «Лявоніха на арбіце», «Людзі на балоце». Заслухаліся мы і мастацкім чытаннем М. Казініна. А пасля сустрэчы было нам аб чым пагаварыць з вядомымі артыстамі, такімі простымі, шчырымі.

**А. ЛАПІЦКАЯ,**
настаўніца.

Саўгас «Беларускі»
Вілейскага раёна

# ДРУГ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ...

**Усесаюзны тыдзень дзіцячай і юнацкай літаратуры сабраў у Мінску паэтаў, празаікаў, драматургаў з усіх рэспублік Краіны Саветаў. Наш карэспандэнт сустрэўся з некаторымі з іх і папрасіў падзяліцца ўражаннямі ад «кніжчынага свята», расказаць пра сваю творчасць. Гасцям — традыцыйныя пытанні пра ўражанні ад Беларусі, Мінска, пра сувязі з нашай літаратурай.**

### Алесь ЯКІМОВІЧ
(Беларусь)

— Некалькі гадоў таму назад адзін дзівак з вучонай ступенню моцна абурыўся быў на старонках літаратурнай газеты супроць «Мухі-Цакатухі». Добра яшчэ, што ён не ведаў пра яе сястру — «Мушку-Зелянушку». Як можна захапляцца мухамі, чытаць іх дзецям! — лямантаваў ён. Біць іх трэба, знішчаць!

Калі б гэты дзівак паглядзеў харэаграфічную сюіту пра «Муху-Цакатуху», выкананую самімі слухачамі і чытачамі яе 25 сакавіка ў тэатры оперы і балета, сэрца яго, трэба думаць, памякчэла б. Ён зразумеў бы, што таленавітыя майстры і з мухі могуць зрабіць слана. Вядома, паэтычнага, мастацкага.

І сапраўды, было чаго паглядзець. Парадавалі нас і іншыя выступленні і артыстаў і саміх дзяцей, прысвечаныя кнігам. Гэта было сапраўднае свята дзіцячай кнігі. Яркае, багатае, змястоўнае.

Не адрываючы вачэй ад сцэны, я думаў, як далёка сягнула наперад наша дзіцячая літаратура. Паглядзіце выстаўку дзіцячых кніг у тым жа тэатры. Тут кнігі выдавецтваў усяго Савецкага Саюза. Якое гэта багацце! Помню, мы ў сваёй рэспубліцы пачыналі некалі, што называецца, на голым месцы — з адной-дзвюх кніг. А зараз друкуем каля сотні штогод. Тое ж і ў іншых нацыянальных рэспубліках.

А ці ж параўнаць знешні выгляд цяперашніх кніг для дзяцей з тым, што мы мелі нават у першыя пасляваенныя гады. Як мучыліся мы тады, каб надрукаваць хоць бы каляровую вокладку! Цяпер жа ўсе нашы рэспублікі маюць і дасканалыя друкарскія машыны, і добрыя кадры мастакоў і майстроў паліграфічнай справы. Выраслі, вядома, і кадры дзіцячых пісьменнікаў. Расце і іх майстэрства, хоць яно ўсё яшчэ не паспявае за агульным ростам нашай культуры. Хацелася б, каб усе нашы дзіцячыя кнігі, без выключэння, мелі і добрае мастацкае афармленне, і добры, цікавы змест.

Тыдзень дзіцячай кнігі ў гэтым годзе для нас, на Беларусі, быў асаблівым святам. Мы праводзілі яго разам з гасцямі з усіх рэспублік — як гаспадары ўсесаюзнай эстафеты. Свята гэтае запомніцца надоўга і нам, пісьменнікам, і юным чытачам.

Пажадаем жа нашай савецкай дзіцячай літаратуры новых поспехаў.

### Зоя ВАСКРАСЕНСКАЯ
(РСФСР)

— Мы, пісьменнікі, як і піянеры, таксама следапыты. Нельга пісаць на гісторыка-рэвалюцыйную тэму, ідучы па працярэбленым шляху, браць толькі тое, што прасеяна на драгу гісторыкамі. Мы павінны пераплавіць нанава і тое, што дадзена гатовым, і тое, што здабываецца пошукамі. Не ўяўляю сабе, як можна напісаць нават маленькае апавяданне пра Леніна, не прайшоўшы зноў і зноў па яго шляхах, па якіх — няхай сабе — хадзілі ўжо і іншыя пісьменнікі. Усё роўна я павінна прайсці гэтыя дарогі сама. Хочацца сказаць нешта новае, раскрыць які-небудзь радок Ільіча.

У навуковай біяграфіі Леніна ўказана, што ў жніўні 1917 года, калі Ільіч пераходзіў з Разліва на новае канспіратыўнае прыстанішча, ён з праважатымі М. Емяльянавым, А. Шотманам і Э. Рах'я трапіў у актыўную зону тарфянога пажару. Ніхто не ведаў, якімі сцяжынкамі ішоў Ленін, апрача Аляксандра Мікалаевіча Емяльянава (сына праваднікa). І, на маёй просьбе, мы з ім паўтарылі шлях Ільіча. Я ішла па тым жа балоце, па той жа дрыгве, у такую ж ноч — з 8 на 9 жніўня. Я хацела ведаць, як тут свецяць зоркі, як мяняюцца сілуэты дрэў, як дыміцца туман.

Потым я адшукала спецыялістаў па тушэнні тарфяных пажараў і прачытала ім, што пісалі пра той пажар тагачасныя газеты. Быў такі дым, сцвярджалі відавочцы, што, калі поезд праходзіў скрозь яго заслону, нічога не было відаць.

Пажарнікі былі ўражаны: «І Ленін ішоў праз актыўную зону тарфянога пажару!» Яны былі ў такіх зонах, але ў масках, узброеныя сучаснай тэхнікай. А калі трапляе ў такі пажар чалавек нявопытны, ён немінуча гіне, бо падпарадкуецца голасу інстынкту — бегчы. Чалавек альбо правальваецца ў багну, альбо задыхаецца ад едкага дыму. Каб уратавацца, трэба захоўваць пэўны тэмп хады, дыстанцыю, рэгуляваць дыханне. Патрэбна велізарная сіла волі. І пажарнікі прызналіся, што яны па-новаму ўбачылі Ільіча. У кнізе «Раніца» гэты эпізод займае старонкі паўтары. А колькі спатрэбілася часу, каб расшукаць факты і людзей!

І так з кожным эпізодам, з кожнай дэталлю. Я напісала невялічкую кнігу «Дарагое імя» — пра Леніна і партыю, пра Савецкі Саюз. Кніжачка невялікая, аркушы з два, а працавала я больш года. Хацела паказаць, што Ільіч дажыў да вялікага шчасця ўбачыць плён таго, дзеля чаго змагалася партыя, дзеля чаго было тры рэвалюцыі.

19 кастрычніка 1923 года цяжка хвораму Уладзіміру Ільічу ўрачы дазволілі паехаць з Горак у Маскву. І вось — усюды пісалася, што Ленін праехаў на машыне **міма** Першай Усесаюзнай выстаўкі. Як гэта **міма**, думаю я. Ён не мог праехаць міма! Стала капацца ў архівах, прагледзела фота- і кінаматэрыялы, знайшла планы выстаўкі, і пераканалася, што Ленін праехаў не **міма** выстаўкі, а **праз** яе. Я дрыжала ад шчасця, калі знайшла доказы таго, што Ленін убачыў здабыткі мірнага, шчаслівага жыцця людзей працы, убачыў братэрства рэспублік, 50-годдзе якога мы святкуем. Я зразумела, якімі шчаслівымі вачамі павінен быў глядзець Ільіч на першы паравоз сармавічоў, на першыя трактары, электрычныя лямпачкі. Ён бачыў план ГАЭЛРО ў дзеянні. І паездка Ільіча стала іншай у маіх вачах. А ўсяго адно слова: міма ці праз...

Я напісала кнігу пра Надзею Канстанцінаўну Крупскую, здымаецца фільм «Надзея» паводле сцэнарыя майго і Ірыны Данской — пра юнацтва і вялікае каханне, пра маладую гвардыю новага свету, пра «Саюз барацьбы за вызваленне рабочага класа». Членамі яго былі людзі ад 17 да 25—26 гадоў — юнакі і дзяўчаты камсамольскага ўзросту. Гэта — тая чыстая і светлая крыніца, ад якой пачынаецца партыя. Хацелася прасачыць станаўленне характараў гэтых людзей, іх пошукі месца ў жыцці. Тут таксама ёсць раскрыты радок з успамінаў Н. К. Крупскай. Калі Надзі Крупскай было 12 год, міма акон гімназіі, у якой яна вучылася, праехалі «ганебныя дрогі», у якіх везлі на пакаранне смерцю царазабойцаў — Соф'ю Пяроўскую і Жэлябава. Іх везлі спіной да коней, з закручанымі назад рукамі, у чорных балахонах. Гімназісткі прыліплі да вокан. І вось вочы Надзі сустрэліся з вачыма Соф'і. Надзя доўга-доўга глядзела ў вочы Соф'і, нібы далучаючыся душой да подзвігу. Дзве дзяўчыны. Адна толькі ўступае ў жыццё, другая — аддае яго ў імя высокай мэты. І Надзя, якая доўга шукала сваё месца ў жыцці, пасля гімназіі з адчаем пісала Льву Талстому — прасіла справы, каб хоць крыху загладзіць зло, якое прынесла людзям сваёй бяздзейнасцю. Гэта яна пісала ў 17 год, калі ўжо 3 гады давала ўрокі і зарабляла сама на жыццё. І яна сарамелася бяздзейнасці!

Такой была і Аляксандра Калантай. Я многа год ведала яе, працавала з ёй. Яна ж — напалавіну беларуска. Бацька яе — генерал Даманговіч, беларус, герой Шыпкі, ваенны гісторык. 31 сакавіка спаўняецца 100 год з дня яе нараджэння.

### Вазген ТАЛЯН
(Арменія)

— Беларусь — мая даўняя знаёмая. Я ваяваў у складзе войск 3-га

## Р. МАЧУЛІН,

намеснік міністра культуры БССР

# МІЖНАРОДНЫ ГОД КНІГІ

**Сёлетні год — Міжнародны год кнігі. У рэдакцыю «Літаратуры і мастацтва» прыходзяць пісьмы, у якіх чытачы пытаюцца, як мяркуецца адзначыць гэту падзею ў нашай краіне, у Беларусі. Расказаць пра гэта мы папрасілі намесніка міністра культуры БССР Р. Мачуліна.**

ПА ПРАПАНОВЕ Савецкага Саюза XVI сесія Генеральнай асамблеі ЮНЕСКО прыняла рашэнне аб аб'яўленні 1972 года Міжнародным годам кнігі. У рашэнні Генеральнай асамблеі вызначаны асноўныя напрамкі і задачы Міжнароднага года кнігі: заахвочванне кнігавыдавецкай справы і распаўсюджвання кніг, развіццё бібліятэчнай абслугі насельніцтва, узмацненне міжнароднага кнігаабмену, павышэнне значэння кнігі як сродку адукацыі, навуковага і тэхнічнага прагрэсу, міжнароднага ўзаемаразумення і мірнага супрацоўніцтва.

У гэтым годзе ў Будапешце намечана правесці 38 сесію Міжнароднай федэрацыі бібліятэчных асацыяцый, прысвечаную праблемам чытання. У штаб-кватэры ЮНЕСКО (Парыж) будзе арганізавана выстаўка ста лепшых кніг, якія зрабілі найбольшы ўплыў на чалавецтва, а таксама выстаўка «Кнігавыдавецкая справа і развіццё бібліятэк». У Вене збяруцца прадстаўнікі шмат якіх краін для абмеркавання праблемы кнігаабмену, а ў красавіку ў Маскве і Ташкенце будуць праведзены семінары бібліятэкараў на тэму «Публічныя бібліятэкі, іх дзейнасць і роля ў сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці». У семінары прымуць удзел прадстаўнікі дваццаці сямі краін Азіі і Афрыкі, якія сталі на шлях развіцця. Яны пазнаёмяцца з работай бібліятэк Масквы і Узбекістана. На міжнародным сімпозіуме ў Маскве прадстаўнікі нашай краіны выступяць з дакладам — «Кнігі на службе гуманізму, прагрэсу і міру».

Зацверджана эмблема Міжнароднага года кнігі, якая адлюстроўвае супрацоўніцтва праз кнігу і яе ролю ў нацыянальным развіцці. Дэвіз эмблемы — «Кніга для ўсіх».

Для правядзення мерапрыемстваў у краінах свету створаны нацыянальныя камітэты. Працуе і Савецкі нацыянальны аргкамітэт пад старшынствам К. Фурцавай — міністра культуры СССР. У састаў камітэта ўвайшлі прадстаўнікі ведамстваў і арганізацый, якія звязаны з выпускам, распаўсюджваннем і прапагандай кніг. Міжнародны год праводзіцца ўпершыню і з'яўляецца вялікім святам. Гэта не толькі даніна павагі гісторыі кнігі, але і год сцвярджэння сацыяльнага значэння кнігі, далейшага ўмацавання яе ўплыву на палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё.

Краіны сацыялістычнага лагера выкарыстоўваюць магчымасці года для далейшага ўзмацнення супрацоўніцтва ў галіне тэорыі і практыкі кнігавыдавецкай і бібліятэчнай справы, для арганізацыі сумесных выданняў, азнаямлення самых шырокіх мас з прагрэсіўнымі ідэямі і лепшымі творамі вучоных і пісьменнікаў краін свету.

У ажыццяўленне праграмы Міжнароднага года ўключаюцца многія дзяржавы, якія вызваліліся ад каланіяльнай залежнасці. Яны плануюць распаўсюджванне пісьменнасці, расшырэнне кнігавыдання, прывіццё любві да кнігі дзецям і дарослым.

У нашай краіне Міжнародны год кнігі супадае з юбілейным годам утварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Таму свята кнігі набывае асаблівы сэнс. Расквітнелі нашы нацыянальныя культуры, літаратуры ўзбагаціліся новымі творамі. Кніга стала неабходнасцю ў жыцці кожнага чалавека. З году ў год павялічваюцца тыражы. Так, у восьмай пяцігодцы ў краіне было выдадзена 6,5 мільярда кніг, 290 мільёнаў экземпляраў перыядычных выданняў — разавы тыраж. Цяпер у краіне 360 тысяч бібліятэк, з іх 20 358 — у Беларусі, дзе кніжны фонд перавышае 125 мільёнаў тамоў.

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савецкі ўрад высока ацэньваюць кнігу як зброю ідэалагічнага выхавання, крыніцу ведаў, павышэння культурнага ўзроўню насельніцтва. Удзел нашай краіны ў Міжнародным годзе кнігі павінен садзейнічаць пашырэнню прапаганды марксісцка-ленінскай ідэалогіі, аўтарытэту знешняй палітыкі Савецкага ўрада, рашэнняў XXIV з'езда КПСС, дасягненняў Савецкага Саюза.

Кніга — моцная зброя ў барацьбе за ўсталяванне правоў чалавека, за ўмацаванне міру на зямлі, за тэхнічны, эканамічны і культурны прагрэс. Год кнігі будзе годам уздыму і далейшага паглыблення ўсей бібліятэчнай работы, развіцця грамадскіх асноў у бібліятэчнай справе, большай увагі да чытання. Умацуюцца дзелавыя кантакты паміж бібліятэкамі рэспублікі, кантакты з буйнымі бібліятэкамі краін сацыялістычнага лагера.

У нашай рэспубліцы створана камісія па правядзенні Міжнароднага года кнігі, бібліятэк і навыкаў чытання. Шмат цікавых мерапрыемстваў намечана правесці ў бібліятэках рэспублікі: канферэнцыі чытачоў па творах савецкіх і зарубежных пісьменнікаў, а таксама на тэмы — «Кніга ў маім жыцці», «Пагаворым аб любімых кнігах», сустрэчы чытачоў з пісьменнікамі і журналістамі, серыі кніжных выставак на тэмы — «50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», «Кніга і бібліятэка ў барацьбе за мір і сацыяльны прагрэс», «Кнігавыда в е ц т в а БССР», «Год кнігі ў Беларусі», «Кніга і бібліятэка ў жыцці савецкага чалавека». Неабходна прывіць любоў да кнігі тым, хто раней не чытаў. Разгорнецца сацыялістычнае спаборніцтва за званне «Бібліятэка выдатнай работы». На прадпрыемствах і ў калгасах пройдуць тыдні і месячнікі кнігі пад дэвізам: «Кніга для ўсіх», дні адкрытых праглядаў кнігі і дні інфармацыі з удзелам пісьменнікаў, кнігавыдаўцоў, ілюстратараў, бібліятэкараў.

Правядзенне ўсіх гэтых мерапрыемстваў будзе садзейнічаць папулярызацыі кнігі як крыніцы ведаў, прапагандзе дружбы паміж народамі, пашырэнню навыкаў чытання.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

**З новай работай свайго народнага тэатра пазнаёміўся калектыў Магілёўскага аўтазавода імя Кірава. Спектакль «Закон прыроды» па п'есе Віннікава паставіў рэжысёр Юрый Сінялобаў. Галоўныя ролі выконвалі Надзея Ільіна, Людміла Райкова, Ірына Якавіцкая, Уладзімір Гуліт.**

**Драматычны калектыў аўтазаводцаў — адзін са старэйшых у горадзе — заснаваны ў 1935 годзе, цяпер носіць званне народнага тэатра.**

**Акрамя магіляўчан «Закон прыроды» ўбачаць у гэтым месяцы працаўнікі саўгасаў «Вейна» Магілёўскага, «XVIII партз'езд» Чавускага раёнаў, а таксама навучэнцы Магілёўскага сельскага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча № 1.**

**М. НОЖНІКАЎ.**



**На здымку: Ірына Якавіцкая ў ролі Галкі ў спектаклі «Закон прыроды».**

Фота В. МАРЧАНКІ.

## П. ГЕРАСІМОВІЧ

# ПАДКАЗАНА ЖЫЦЦЁМ

ПРЫГЛЯДАЮЧЫСЯ да творчага працэсу ў выяўленчым мастацтве апошніх гадоў, няцяжка ўгледзець у ім істотную тэндэнцыю — імкненне вобразна асэнсаваць вызначальнае ў станоўчым герої, народжаным нашай эпохай і сфарміраваным ёю ў складаных выпрабаваннях барацьбы за ажыццяўленне самых гуманістычных ідэалаў. Гэтае імкненне мастакоў зусім заканамернае. Яно абумоўлена самім ходам нашага жыцця, сутнасцю савецкага мастацтва, заклікананага спасцігаць прыгажосць, уласцівую чалавеку, якога фарміруе савецкае жыццё.

Уласна, на ўсіх этапах развіцця нашага мастацтва ў цэнтры яго ўвагі застаецца чалавек-змагар, чалавек-грамадзянін...

У гады, калі савецкія мастакі поплеч з героямі сваіх твораў змагаліся супраць фашызму, калі яны былі непасрэднымі сведкамі гераізму савецкага чалавека на вайне, яго несакрушальнасці, — тады нарадзіліся творы, якія вытрымалі выпрабаванне часам і засталіся ў актыве нашага мастацтва.

Сёння мастацтва трохі іначай падыходзіць да тэмы Вялікай Айчыннай вайны. Прайшоў час. З'явіліся новыя задачы, якія немагчыма было вырашаць у творах пра вайну па гарачых слядах падзей. Ёсць бясспрэчныя ўдачы і ў гэты перыяд.

Але ў рашэнні высакароднай задачы стварэння вобраза чалавека-змагара, чалавека-стваральніка назіраюцца і пэўныя пралікі, якія наводзяць сёння на роздум аб іх прычынах.

І якраз пра некаторыя нашы здабыткі і страты ў вырашэнні вобраза станоўчага героя эпохі і хочацца пагаварыць у сувязі з выстаўкай у цэнтральнай выставачнай зале Масквы.

Роздум пра чалавека — вядучае ў карцінах М. Савіцкага «Пакаранне смерцю», «Віцебскія вароты», «У полі», у «Рудабельскай рэспубліцы» Р. Кудрэвіч, у рабоце «Партызаны, партызаны, беларускія сыны» А. Гугеля, у карцінах В. Грамыкі «Жанчынам Вялікай Айчыннай прысвячаецца», А. Шыбнёва «Памяць сэрца», А. Малішэўскага «Хатынь», «Хірург. Пасля аперацыі», У. Стальмашонка «Народныя камісары БССР—Зм. Жылуновіч, А. Мяснікоў, В. Кнорын, І. Адамовіч, А. Чарвякоў». Ва ўсіх гэтых работах невыпадкова на першым плане буйным кампанентам — галоўныя персанажы кампазіцыі. Людзі тут або ў полымі вайны, або ў час зацішку паміж баямі, або ў роздуме над сваімі бягучымі клопатамі...

Мастакі імкнуцца аналізаваць сваіх герояў у такіх сюжэтных умовах, якія спрыяюць больш яркаму высвятленню іх унутранай прыгажосці, высакароднасці іх ратнага і працоўнага подзвігу, высакароднасці іх эмацыянальных зрухаў. Падкрэсліванне высакароднага ў героях палотнаў адбываецца не прыўзніманнем іх на «катурны», не лакіроўкай, не таннай павярхоўнай рамантызацыяй, разлічанай не на вельмі патрабавальнага і не вельмі дасведчанага гледача. Наадварот — у кожным з пералічаных палотнаў відаць сур'ёзная праца, жаданне мастака вырашаць няпростую задачу стварэння праўдзівага і пераканаўчага вобраза сучасніка вялікіх рэвалюцыйных пераўтварэнняў нашай эпохі. Мы ўвачавідкі бачым творчыя намаганні розных майстроў, розныя сродкі выяўлення думак, пачуццяў і ўяўлення пра чалавека з пазіцыі нашага часу. Іншая справа, што вынікі пры аднолькава шчырых намаганнях бываюць розныя. Не ўсім удаецца аднолькава глыбока вырашаць пастаўленыя перад сабой задачы. І глядач справядліва прад'яўляе прэтэнзіі да карцін, а асабліва да партрэта — жанру, які найбольш непасрэдна адпавядае задачы праспяваць гімн чалавеку-грамадзяніну. На жаль, з году ў год мы вельмі мала бачым на нашых выстаўках партрэтаў, якія не выклікалі б ніякіх агаворак, былі б высока прафесійныя і з глыбокай вобразнай характарыстыкай персанажа.

Партрэты на нашых выстаўках — пераважна дзвюх катэгорый. Гэта або падрабязна **скапіраваны** герой з усімі яго рэгаліямі ці прыкметамі рабочага месца,

# АХОВА ПОМНІКАЎ —

БЕЛАРУСКАЕ таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Сёння ў яго радах некалькі мільёнаў членаў — рабочых, калгаснікаў, навучэнцаў, работнікаў культуры. Толькі ў 1971 годзе ў таварыства ўступілі 275 511 чалавек, былі створаны тры новыя раённыя аддзяленні, 1066 новых пярвічных арганізацый, 484 прамысловыя прадпрыемствы, калгасы, саўгасы і ўстановы сталі яго калектыўнымі членамі.

Гэтыя лічбы красамоўна сведчаць пра тое, з якой павагай ставіцца грамадскасць нашай рэспублікі да той вялікай і вельмі складанай працы, якой займаецца таварыства.

Беларускай зямлі не пашанцавала на спакойнае жыццё. Полымя вайны не шкадавала нашых гарадоў і вёсак. Не абыходзіла яно і сведкаў высокай духоўнай культуры беларускага народа. Тым больш важная задача, якую ставіць перад сабой таварыства — зберагчы, руплiва і старанна аднавіць усе тыя помнікі, якія данеслі да нас праз стагоддзі сведчанні таленту, высокага прафесійнага майстэрства нашых продкаў.

Пра задачы таварыства, пра яго планы на дзевятую пяцігодку вялася гаворка на II пленуме Цэнтральнага савета Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, які адбыўся ў Мінску 21 сакавіка гэтага года.

У дакладзе старшыня прэзідыума праўлення Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, намеснік старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Іван Фролавіч Клімаў сказаў:

— Сёння мы можам з упэўненасцю сказаць, што тыя першачарговыя задачы, якія сталі перад намі ў момант стварэння таварыства, у асноўным, выкананы. Цяпер мы павінны ісці далей, патрабаваць ад сябе болей. І першае, што мы павінны зрабіць, каб быць на ўзроўні сучасных запатрабаванняў, — выпрацаваць вялікую, добра абгрунтаваную праграму нашай далейшай работы, рашуча ўзняць патрабавальнасць да арганізацыйнай дзейнасці мясцовых аддзяленняў таварыства, умацаваць пярвічныя арганізацыі, паставіць дзейнасць таварыства на больш салідны навуковы падмурак.

Развіваючы гэтую думку, І. Ф. Клімаў адзначыў:

— Адным з найбольш важных пытанняў арганізацыйнай работы з'яўляецца работа з кадрамі. Мясцовыя аддзяленні таварыства часта падпадаюць пад уплыў высокіх агульных паказчыкаў, мяркуючы аб рабоце пярвічных арганізацый па тых лічбах, якія стаяць у справаздачах. Але за лічбамі заўсёды стаяць жывыя людзі, і задача мясцовых аддзяленняў — дабіцца, каб кожны член таварыства быў заняты актыўнай, творчай работай па выяўленні і добраўпарадкаванні помнікаў.

У снежні 1971 года на пасяджэнні прэзідыума Цэнтральнага савета слухалі справаздачу І. Бандарэнкі — старшыні бюро адной з самых буйных пярвічных арганізацый — Мінскага трактарнага завода. У гэтай арганізацыі больш за дзесяць тысяч членаў. І кожны з іх актыўна ўдзельнічае ў рабоце сваёй арганізацыі.

Добра працуе і прэзідыум Аршанскага гарадскога аддзялення таварыства. На ільнокамбінаце, на заводзе «Чырвоны Кастрычнік», на мясакансервавым камбінаце, на фабрыцы індпашыву абутку членамі таварыства з'яўляюцца амаль 90 працэнтаў рабочых і служачых.

Цікава працуе і пярвічная арганізацыя таварыства ў Гродзенскім педагагічным інстытуце.

Адной з найбольш эфектыўных форм павышэння актыўнасці работы пярвічных арганізацый з'яўляецца абагульненне і пашырэнне вопыту работы лепшых арганізацый. У гэтым

накшталт сталявара з акулярамі на шлеме або даяркі з бідонам і ў белым халаце ці вучонага абавязкова ў акулярах. У іншых выпадках адбываецца нешта зусім процілеглае: як мага далей ад падабенства! Галава — схема. Рот, вочы, бровы — усё да мяжы ўмоўнае. Фарбы — непраўдападобна яркія або неправўдападобна змрочныя. Бывае нават, што пад такога роду схемай ставіцца канкрэтнае імя, накшталт «Маша» або «Наташа», але ўсё-роўна гэта не надае партрэту ні грана канкрэтнасці. Наўрад ці атрымліваецца ў такіх выпадках і «чалавек увогуле». Зразумела, абедзве катэгорыі партрэтаў далёкія ад сапраўднага мастацтва, бо ў іх няма вядучага—мастакоўскага бачання. Няма істотнага ўнутранага суперажывання мастака з персанажам партрэта — рабочага або даяркі, вучонага або студэнта. Ці не таму, што не так ужо рэдка нестае мастаку інтэлектуальнага ўзроўню або мастакоўскай інтуіцыі, якія прыадчынілі б перад ім унутраны свет партрэтуемага?..

Глядач нярэдка бывае незадаволены так званым «сучасным» партрэтам таму, што прывык параўноўваць яго з класічнымі ўзорамі, для якіх мастаку людзі пазіравалі. Іншая справа, што геніям партрэта ўдавалася бачыць і абагульняць, узводзячы жывую натуру ў ступень сапраўды мастацкага вобраза, падпарадкоўваць натуру задачы выразнасці, не насілуючы самую натуру. І ўсё працавала на характар — і цяжкія складкі драпіровак, і дэталёвая выпісанасць вачэй, адзення, рук.

Але час ідзе. І сёння погляды на партрэтны вобраз разнастаяцца. Многія схільны думаць, быццам работа з натуры павінна саступіць месца рабоце па памяці, па назапашаных раней уражаннях, паколькі, маўляў, у гэтых выпадках выключана магчымасць трапіць у палон самой натуры, у палон «лабавога рашэння». Тым самым пазбаўляюць сябе магчымасці ўзбагаціць «філасофскую аснову», эмацыянальнасць твора. Інакш кажучы, перакрэсліваецца ў корані метад колішніх карыфеяў партрэта, паколькі ён, быццам бы, устарэў. Гледача ж меней за ўсё цікавяць метады. Яго цікавіць вынік.

Мне здаецца, пакуль што вынікі ў рабоце над партрэтам па памяці—мала суцяшальныя. У творчым патоку не шмат знаходзім залатых зерняў. Пераважаюць падробкі, якія не маюць эстэтычных вартасцей.

І ўсё ж, мабыць, адмоўная рэакцыя на партрэт натурны мае пад сабой пэўную глебу. Ёсць пэўнае імкненне ўзмацніць у партрэце дэкаратыўны, эмацыянальны, філасофскі пачаткі дзеля пошукаў вобразаў, сугучных касмічнай эпохі. Іншая справа, што не заўсёды ўдаецца завяршыць пошук знаходкамі. Але паасобныя знаходкі — ёсць.

Новым падыходам да вырашэння вобраза станоўчага героя, у прыватнасці, уяўляецца кампазіцыя У. Стальмашонка «Народныя камісары БССР Дз. Жылуновіч, А. Мяснікоў, В. Кнорын, І. Адамовіч, А. Чарвякоў». Скарыстаўшы іканаграфічны матэрыял, мастак надзяляе персанажаў групавога партрэта пэўным падабенствам. Мастак пазбягае звыклых для нас уяўленняў бачыць у карціне жыццё вобраза ў яго развіцці, пэўную асобу —у пэўных характэрных канкрэтных абставінах. Бадай, толькі партрэт Мяснікова дадзены з гістарычнай верагоднасцю — такім, якім бачылі мы яго ў дваццатыя гады, у фуражцы, з зоркаю і ў шынялі, з яго непаўторным аблічам, адзначаным інтэлектам і воляю бальшавіка. Астатніх камісараў пазнаем толькі па нешматлікіх крыніцах, на якія, мабыць, абапіраўся аўтар карціны. Характарыстыкі камісараў пададзены скупа, і ўсё ж кампазіцыя глядзіцца з цікавасцю. У сваім рашэнні мастак зыходзіць з уяўлення аб цэльнасці палатна, надае эмацыянальную нагрузку фону. Ён тут незвычайны, сімвалічны, задуманы на «работу» колеру, кантрастаў, буйных планаў цёмна-чырвонага, чорнага, белага, пададзеных у «імклівым тэмпе», у чыста графічным аспекце, блізкім да плакатнага вырашэння. У кампазіцыі многае разлічана на дынаміку колернай плоскасці, на жывапісную сімволіку, здольную падкрэсліць жыццё мастацкага вобраза.



В. САХНЕНКА. Партрэт Розы Басацкай.

Мастаку, зразумела, нельга адмаўляць у праве на любы ход у творчым увасабленні сваёй задумы. Ён усякі раз адкрывае гледачу новае ў мастацкім пазнанні з'яў жыцця. Для нас, зразумела, важней за ўсё вынік, ступень выяўлення вобраза, яго эстэтычны зарад.

У дадзеным выпадку, хочацца думаць, разлік мастака на «эмацыянальную дэкаратыўнасць», на мажорную гучнасць жывапісных аксесуараў кампазіцыі не прывёў да паглыблення ў вобразныя характарыстыкі камісараў. Чыста знешняя дэкаратыўнасць палатна быццам засланіла нешта істотнае ў характарах людзей. Вобразы жывуць. Але не ва ўсёй мастацкай паўнаце. Мне здаецца, мастак абмежаваў сябе фармальнай задачай, пакідаючы на другім плане акцэнты выразнасці вобразаў. Асабліва гэта прыкметна ў вобразе А. Чарвякова, дзе галоўную ўвагу гледача адцягвае на сябе белая кашуля. Тут, магчыма, варта было б мастаку больш палічыцца з традыцыямі станковага жывапісу, з блізкасцю гледача да палатна, з яго пільнаю ўвагаю да галоўнага — да філасофскай глыбіні зместу.

Ставіць перад сабой задачу стварэння вобраза станоўчага героя А. Малішэўскі ў карціне «Хірург. Пасля аперацыі». Як зазначае сам мастак, карціна створана на добра вывучаным матэрыяле. У гэта можна паверыць, бо многае ў карціне ўдалося. Увогуле ж, мастак паставіў перад сабою задачу не з лёгкіх, калі прыгадаць лепшае, што ўжо ёсць на гэтую тэму ў савецкім жывапісе. А. Малішэўскі стварае збіральны вобраз хірурга. Мы бачым персанаж карціны ў момант пасля складанай аперацыі. Максімальную ўвагу засяроджвае мастак на перадачы ўнутранага стану хірурга, яго роздуму аб толькі што завершанай барацьбе за чалавека.

Паняцце жывапіснай прыгажосці твора нярэдка зводзяць да любавання формай самой па сабе. Нешта ад гэтага грахубачыцца мне ў карціне «Старшыня. 1943-год» А. Кішчанкі. Калі верыць назве карціны, мастак стварыў станоўчы вобраз жанчыны, старшыні калгаса ў цяжкія гады вайны.

На чорным фоне добра відаць жоўта-бронзавыя фігуры жанчын. Яны—знясіленыя, змучаныя. Але ўяўленне наша не ідзе ў кірунку, патрэбным для таго, каб зразумець задуму мастака. Ці не таму, што не знаходзіць наша ўяўленне апоры, каб зразумець, дзе гэта і што гэта такое? Нават спакушаны ў веданні самых розных сучасных эксперыментаў глядач здзіўляецца. А тым больш — глянуўшы на этыкетку.

Забыўшыся ж на тое, што перад намі станковая карціна пра вайну, пра старшыню, мы знаходзім у ёй дэкаратыўныя вартасці. Мастак, які мае талент жывапісца, падкупляе нас прыгажосцю самой па сабе. Так, мы несумненна адчуваем трагічнасць сюжэта, хай сабе і неакрэсленага, але пададзенага ў прыгожым жывапісе. Спалучыць тактоўна трагізм і прыгажосць — задача сама па сабе нялёгкая. І справядлівасць патрабуе адзначыць, што гэта таксама якасць карціны, таксама знаходка, якія бываюць не так ужо часта. Але ці не занадта вялікая раскоша для майстра — разглядаць у карціне вобраз галоўнага персанажа толькі як фармальны кампанент, дэманструючы сваё поўнае раўнадушша да яго ўнутранага жыцця? Можа, мастак скажа, што ён імкнуўся перадаць унутраны стан праз чыста знешнія пластычныя і жывапісныя характарыстыкі. Так, можа і імкнуўся. Але выніку пакуль што не дасягнуў. Пры ўсёй нашай сімпатыі да яго таленту мы не можам прызнаць гэтую карціну ўдалай, вырашанай, завершанай.

Нас не можа не хваляваць, што, ствараючы вобраз станоўчага героя, нашы жывапісцы яўна недастаткова паглыбляюцца ў яго ўнутраны свет. Нас не можа не хваляваць, што па-за іх увагай застаецца многае характэрнае для нашага кіпучага, шматграннага жыцця.

Мы бачым у сучасным жывапісе карціны больш удалыя і менш удалыя. Але так мала бачым у іх вобразаў, якія палюбіліся б нам сваімі канкрэтнымі рысамі. Якія сталі б для нас «нарицательными».

Думаецца, мастакі яшчэ ў вялікім даўгу перад станоўчымі героямі нашага часу. Яны ўсё яшчэ не скарыстоўваюць магчымасці станковай карціны на поўную сілу, каб куды больш разнастайна і куды больш плённа расказаць пра час і пра сябе.

# НАШ ПАЧЭСНЫ АБАВЯЗАК

сэнсе заслугоўвае ўвагі праведзены ў Гарадоцкім раёне па ініцыятыве прэзідыума раённага савета таварыства і раённага аддзела культуры «Тыдзень памяці герояў».

Вялікую ўвагу дакладчык удзяліў рабоце прапагандыстаў таварыства: вучоных, мастацтвазнаўцаў, выкладчыкаў вну і настаўнікаў школ, работнікаў музеяў і бібліятэк — усіх тых, хто чытае лекцыі, выступае ў друку, вядзе вялікую растлумачальную работу. І. Ф. Клімаў адзначыў, што беларускія газеты, радыё і тэлебачанне ў апошні час больш увагі пачалі надаваць прапагандзе помнікаў гісторыі і культуры, што ў многіх абласных і рэспубліканскіх газетах з'явіліся пастаянныя рубрыкі, пад якімі друкуюцца матэрыялы, прысвечаныя гісторыі роднага краю, гераічным падзеям мінулага, прапагандуюцца помнікі гісторыі і культуры.

— Высакародныя мэты аховы помнікаў, — сказаў далей дакладчык, — прыцягнулі ў таварыства многія тысячы энтузіястаў-добраахвотнікаў. Таварыства зрабілася адной з самых буйных масавых грамадскіх арганізацый рэспублікі.

Членскія ўзносы дазволілі таварыству ў 1971 годзе асігнаваць на навукова-даследчую работу, рамонт і добраўпарадкаванне помнікаў гісторыі і культуры 158 тысяч рублёў. Таварыства на паях з іншымі арганізацыямі ўдзельнічала ў работах па рамонце Мірскага замка, Сафійскага сабора ў Полацку, капліцы ў вёсцы Лясной, былога касцёла ў Мсціслаўлі, Слуцкай брамы ў Нясвіжы. Таварыства прымала ўдзел і ў добраўпарадкаванні помнікаў героям-пагранічнікам ў Брэсце, піянерам-падпольшчыкам братам Сянько ў Мінску, ахвярам фашызму на месцы былога канцлагера ў Азарычах, а таксама ва ўзвядзенні помнікаў загінуўшым воінам і партызанам у Оршы, Лёзненскім і Дубровенскім раёнах Віцебскай вобласці, у Калодненскім лесе Мінскай вобласці і ў іншых месцах.

У 1971 годзе Цэнтральны савет і мясцовыя арганізацыі таварыства склалі дакументацыю на 60 помнікаў архітэктуры Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай абласцей. Больш 300 помнікаў мастацтва было выяўлена і апісана экспедыцыяй, наладжанай Цэнтральным саветам таварыства разам з Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

— Аднак, разам з гэтым,—зазначыў прамоўца,—ёсць месцы, дзе стан і ўлік помнікаў не адпавядаюць патрабаванням закона Беларускай ССР «Аб ахове помнікаў гісторыі і культуры».

Вельмі марудна і не вельмі якасна праводзяцца работы па кансервацыі некаторых помнікаў архітэктуры. Рэспубліканскія навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні на працягу трох год не могуць асвоіць сродкі, якія выдаткуе ім таварыства. Некаторыя мясцовыя аддзяленні дрэнна праводзяць работы па добраўпарадкаванні ахоўных зон і зон забудовы вакол помнікаў. З многімі арандатарамі помнікаў не заключаны да гэтага часу ахоўныя дагаворы, што вядзе да неабдуманых, выпадковых забудоў ахоўных зон.

На жаль, мы вымушаны канстатаваць, што ў рэспубліцы дрэнна ахоўваюцца археалагічныя помнікі. Асабліва небяспечна адчуваюць сябе помнікі археалогіі ў зонах новабудоўляў. Напрыклад, у зоне будаўніцтва Вілейска-Мінскай воднай сістэмы неабследаванымі засталіся больш паловы знойдзеных помнікаў. Відаць, Цэнтральнаму савету таварыства і яго мясцовым аддзяленням трэба будзе больш пільна прыглядзецца да помнікаў археалогіі, узяць іх пад сваю апеку.

Вельмі важным пытаннем у рабоце таварыства з'яўляецца складанне спісу гарадоў з багатым гістарычным мінулым. З усіх куточкаў Беларусі пішуць людзі ў Цэнтральны савет пра свае гарады, пра цудоўныя помнікі, якімі яны багатыя. І. Ф. Клімаў спыніўся на гэтым пытанні і сказаў, што ўсе прапановы грамадзян будуць старанна вывучаны і абмеркаваны. Акрамя таго, у рабоце па выяўленні, вывучэнні, узяцці на ўлік і складанні праектаў рэстаўрацыі помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў гэтай пяцігодцы будзе працаваць некалькі экспедыцый.

Спыніўся дакладчык і на такім вельмі важным, але даволі занядбаным у Беларусі пытанні, як выяўленне і ўзяццё пад ахову помнікаў прамысловага дойлідства.

— Адным з галоўных пытанняў нашай сённяшняй работы, — сказаў далей прамоўца, — з'яўляецца распрацоўка прапаноў аб выкарыстанні помнікаў архітэктуры. Спадзяёмся на дапамогу Міністэрства культуры Беларусі, якое таксама павінна быць зацікаўлена ў належным выкарыстанні помнікаў архітэктуры.

Вельмі заклапочана гаварыў І. Ф. Клімаў пра рэспубліканскія навукова-рэстаўрацыйныя майстэрні, якія сёння яшчэ працуюць амаль саматужна: дрэнна забяспечаны механізмамі, адпаведнымі будаўнічымі матэрыяламі, кваліфікаванымі кадрамі праекціроўшчыкаў, будаўнікоў, спецыялістаў-рэстаўратараў.

Відаць, прыйшоў час Міністэрству культуры рэспублікі падумаць аб шырокай дыскусіі, у якой прынялі б удзел спецыялісты з Масквы, Кіева, Вільнюса, Ленінграда, Рыгі, абмеркаваць набалелыя пытанні, напрыклад, як наладзіць падрыхтоўку спецыялістаў-рэстаўратараў, вызначыць якасць і наменклатуру неабходных будаўнічых і абліцовачных матэрыялаў, палепшыць узровень рамонтных работ, пазбегнуць раздраблення сродкаў па многіх аб'ектах і інш.

Гаворачы пра планы таварыства, дакладчык адзначыў, што ў гэтай пяцігодцы будзе праведзена вялікая работа па стварэнні музеяў на месцы археалагічных помнікаў.

— Археалагічныя адкрыцці апошніх гадоў у нашай рэспубліцы выклікалі вялікую цікавасць ва ўсім свеце. Прыгадаем хаця б раскопкі старажытнага Бярэсця. Зараз вырашаецца пытанне аб стварэнні спецыяльнага павільёна над раскопкамі. Таварыства гатова прыняць удзел у яго ўзвядзенні. Гэты павільён дазволіць захаваць помнік і стварыць цікавы музей археалагічных знаходак.

У заключэнне даклада І. Ф. Клімаў сказаў:

— У сваёй дзейнасці Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры паўсядзённа кіруецца дырэктывамі Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада, ленінскімі ўказаннямі наконт вялікага значэння захавання помнікаў гісторыі і культуры, іх вялікай ролі ў камуністычным выхаванні народа.

Пасля даклада адбыліся спрэчкі, у якіх выступілі: доктар гістарычных навук, прафесар І. Краўчанка (старшыня секцыі помнікаў гісторыі рэспубліканскага таварыства), намеснік старшыні прэзідыума Віцебскага абласнога савета таварыства Я. Кавальчынскі, адказны сакратар Шчучынскага раённага аддзялення таварыства Н. Смаглей, доктар гістарычных навук, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР В. Бандарчык, Герой Савецкага Саюза, старшыня Рэспубліканскага камітэта ветэранаў вайны І. Жыхараў, адказны сакратар Навабеліцкага аддзялення гарадскога таварыства Гомеля Д. Шчэрба, галоўны архітэктар спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных майстэрань Міністэрства культуры БССР С. Друшчыц, доктар гістарычных навук, прафесар А. Залескі, галоўны архітэктар інстытута «Белкамунпраект» М. Ліўшыц.

Пленум прыняў пастанову, у якой адлюстраваны асноўныя палажэнні даклада. У рабоце пленума прыняў удзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў.

# ЗБРОЯ РЭАКЦЫІ

У ВЫДАВЕЦТВЕ палітычнай літаратуры выйшла ў свет кніга, якая не можа не прыкаваць увагі чытачоў. Гэта зборнік матэрыялаў, якія выкрываюць ідэалогію і палітыку сучаснага сіянізму.

У нашы дні з асаблівай відавочнасцю праяўляецца рэакцыйная сутнасць ідэалогіі і палітычнай практыкі сіянізму, якая прасякнута ярым антыкамунізмам, расісцкім духам, жорстакасцю і каварствам у дасягненні мэты, пастаўленай перад сіяністамі іх мачапалістычнымі гаспадарамі.

Сіянізм выконвае ролю штурмавога атрада імперыялістычнай рэакцыі, зачыншчыка антысавецкіх правакацый, факельшчыка новых ваенных канфліктаў.

Створаная сусветным капіталам шырока разгалінаваная сістэма сіянісцкіх арганізацый разглядаецца сёння заправіламі імперыялізму як адзін з «сродкаў нападзення». Менавіта на сіянізм клас эксплуататараў усклаў задачу рыхтаваць і праводзіць антыкамуністычныя акцыі, ствараць «спрыяльную атмасферу» для антысацыялістычных правакацый на сусветнай арэне, дыскрэдытаваць асноўныя прынцыпы знешняй і ўнутранай палітыкі краін сацыялістычнай садружнасці, чарніць і няславіць светлую ідэю барацьбы за камунізм, у імя перамогі якога самаахвярна і натхнёна працуюць народы Савецкага Саюза і іншых краін сацыялізма.

Зборнік складзены па публікацыях у савецкім перыядычным друку («Международная жизнь», «Правда», «Политическое самообразование», «Азия и Африка сегодня», «Проблемы мира и социализма», «Литературная Россия», «Новое время», «Красная звезда», «Известия», «Литературная газета»). Ён уключае 19 артыкулаў, кожны з якіх закранае той ці іншы бок тэорыі і практыкі сусветнага сіянізму. Гэта такія, напрыклад, артыкулы, як «Сіянізм на службе імперыялізму», «Хто плаціць сіяністам», «Антысаветызм—прафесія сіяністаў», «Ізраіль—краіна шавінізму і расізму», «Расісты з Тэль-Авіва», «Звычайны сіянізм», «Свастыка—аўтограф сіянізму», «Чорныя сотні сіянізму» і іншыя. Сабраныя разам, гэтыя матэрыялы даюць шырокае ўяўленне аб тым, што такое сіянізм, якая яго класавая сутнасць, як, выступаючы ў якасці сродку імперыялістычнай рэакцыі, сіянісцкія правячыя колы Ізраіля раздзьмухваюць полымя вайны на Блізкім Усходзе, спрабуюць пасеяць насенне варожасці і нянавісці паміж народамі.

У артыкуле В. Аляксеева і В. Іванова «Сіянізм на службе імперыялізму» раскрываецца рэакцыйная сутнасць сіянісцкай ідэалогіі. Яна з'явілася на грамадска-палітычнай арэне ў канцы мінулага стагоддзя з шырокавяшчальнай праграмай «канчатковага» вырашэння «яўрэйскага пытання». Узяўшы на ўзбраенне два міфы—аб «богавыбранні» яўрэйскага народа і аб «яўленні месіі», сіянісцкія главары выкарысталі гэту атручаную зброю з каварнай мэтай—каб падпарадкаваць сваймy неабмежаванаму ўплыву шырокія масы яўрэйскага народа, прымусіць іх падтрымаць сіянісцкі план утварэння з дапамогай імперыялістычных дзяржаў яўрэйскай дзяржавы, адцягнуць працоўных яўрэяў ад інтэрнацыянальнай рэвалюцыйнай барацьбы ў тых краінах, дзе яны пражываюць.

Сіянізм нашых дзён—гэта ідэалогія, разгалінаваная сістэма арганізацый і палітычная практыка буйнай яўрэйскай буржуазіі, якая зраслася з манапалістычнымі коламі ЗША і іншых імперыялістычных краін. Галоўным зместам сіянізму з'яўляецца яры шавінізм і злосны антыкамунізм. Інтарэсы імперыялістычных колаў і сіянізму супадаюць не толькі ў барацьбе супроць нацыянальна-вызваленчага руху арабскіх народаў. Сіянізм заўсёды шырока выкарыстоўваўся заходнімі дзяржавамі ў іх падрыўной дзейнасці супроць Савецкага Саюза. Непрымірымага ворага ў асобе сіянізму Савецкая дзяржава ўбачыла з першых дзён свайго існавання. Лідэры сіянісцкіх арганізацый адразу ж пасля Кастрычніка заклікалі змагацца з Савецкай уладай у радах контррэвалюцыі, сіяністы ўдзельнічалі ў грамадзянскай вайне на баку дзянікінцаў, пятлюраўцаў, махноўцаў і іншых ворагаў маладой Краіны Саветаў. Іх нікольні не бянтэжыла, што сіянісцкія падраздзяленні ўваходзілі ў склад белагвардзейскіх банд, адказных за яўрэйскія пагромы, за забойства дзесяткаў тысяч яўрэяў. Сіяністы супрацоўнічалі з імперыялістычнымі разведкамі, арганізоўвалі сабатажы, дыверсіі, стваралі шматлікія таварыствы, якія рабіліся цэнтрамі антысавецкай дзейнасці. У цяперашні час усё, што звязана з Савецкім Саюзам, сіяністы спрабуюць зняславіць і абылгаць. Аднак адпор, які даюць гэтым правакацыйным вылазкам савецкія людзі, у тым ліку і яўрэі,—несумненнае сведчанне правалу ідэалагічных дыверсій сіянізму і імперыялізму.

Выкрываючы агрэсіўную палітыку і ідэалогію сіянізму, савецкія людзі ніякім чынам не атаясамліваюць сіянісцкія правячыя колы Ізраіля з народам гэтай краіны. Савецкі Саюз адзін з першых прызнаў дзяржаву Ізраіль і да чэрвеня 1967 года падтрымліваў з ёй дыпламатычныя адносіны.

Ізраіль не можа фінансаваць сваю агрэсіўную палітыку за кошт уласных рэсурсаў. Для яго характэрны пастаянны плацёжны дэфіцыт і прынясце з году ў год «дадатковых бюджэтаў». Бесперапынна ўзрастаючыя ваенныя расходы пакрываюцца паступленнямі з-за граніцы. Сакрэт так званага «ізраільскага цуду» раскрываецца ў артыкулах В. Бальшакова «Хто плаціць сіяністам?» і Г. Баканурскага «Саюз сіянізму і манаполій». Аўтар першага артыкула прыводзіць словы члена кіраўніцтва Кампартыі ЗША Хаймена Лумара, які заявіў: «Сіянісцкі рух узначальвае ўплывовая група капіталістаў-яўрэяў. Гэта група ўносіць львіную долю ўкладаў, якія дапамагаюць Ізраілю пакрываць велізарныя ваенныя расходы... Акрамя таго, яна аказвае дамінуючы ідэалагічны ўплыў». Аналізуючы факты, аўтары артыкулаў даюць чытачу падрабязныя звесткі аб тым, хто фінансуе і натхняе ізраільскіх ястрабаў на агрэсію супроць арабскіх краін і на антыкамуністычную, антысавецкую дзейнасць. Гэта буйныя манаполіі і банкі ЗША і іншых капіталістычных краін, мільянеры-сіяністы гэтых краін. Згодна з пагадненнямі, заключанымі з урадамі ЗША, ФРГ і Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця з 1967 па 1975 год у Ізраіль павінны паступіць капіталы на суму 9 мільярдаў долараў. Прыватныя пераводы ў Ізраіль у 1967—1970 гадах склалі каля 800 мільёнаў долараў. Прамыя ваенныя расходы Ізраіля складаюць каля 40% дзяржаўнага бюджэту. У бягучым фінансавым годзе на вайну супроць арабскіх краін будзе выдаткоўвацца больш за тры мільёны долараў на дзень.

Сярод тых, хто сістэматычна фінансуе Ізраіль, пішуць аўтары, мы бачым французскіх баронаў Ротшыльдаў і Лазараў, амерыканскіх банкіраў Лімэнаў, Кунаў-Лебаў, Уорбергаў, Гугенхаймаў, Зэлігманаў і іншых, англійскіх капіталістаў-сіяністаў Клораў, Вальфсонаў, Сіфаў, Спенсераў і інш., шведскіх Валенбергаў, мільянераў Заходняй Германіі, Швейцарыі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі і іншых краін.

З цікавасцю прачытае чытач артыкул члена Палітбюро ЦК Кампартыі Ізраіля Эміля Тумы «Штурмавы атрад міжнароднага сіянізму і імперыялізму». Сіянісцкія ідэолагі спрабуюць атоесамліваць Ізраіль з сіянізмам гэтак сама, як яны атоесамліваюць сіяністаў з яўрэямі. У раздзьмутай і дарагой прапагандысцкай кампаніі яны сцвярджаюць, што той, хто выступае супраць сіянісцкай ідэалогіі і палітыкі з'яўляецца праціўнікам дзяржавы Ізраіль і антысемітам. У сапраўднасці ж барацьба супроць праімперыялістычнай, сіянісцкай палітыкі і ідэалогіі ёсць барацьба за народ Ізраіля, за іншы Ізраіль, за забеспячэнне яго будучыні. КПІ, якая вядзе непрымірымую барацьбу з сіянізмам, вядзе барацьбу за вызваленне мас працоўных ад шавінізму, за ўступленне краіны на шлях прагрэсіўнай унутранай і знешняй палітыкі, якая б адпавядала сапраўдным нацыянальным інтарэсам народа.

У рэзалюцыі ЦК КПІ ад 20 лютага 1972 года адзначалася, што за дымавой завесай «заклапочанасці» становішчам савецкіх яўрэяў сіяністы спрабуюць схаваць правал ізраільскай палітыкі акупацыі і анексіі арабскіх тэрыторый. Сіянісцкія лідэры і іх імперыялістычныя заступнікі, гаворыцца ў артыкуле Э. Тумы, не маюць ніякага права турбавацца аб савецкіх яўрэях, якія свабодныя і шчаслівыя на сваёй сацыялістычнай радзіме. І калі ўжо праяўляць клопат, то аб лёсе народа Ізраіля, будучае якога пад пагрозай.

Шмат фактычнай інфармацыі даюць артыкулы А. Курава «Звычайны сіянізм», Я. Шрайбера «Свастыка—аўтограф сіянізму» і Л. Канеўскага «Чорныя сотні» сіянізму», С. Астахава «Расісты з Тэль-Авіва». Прадстаўленыя тут дакументальныя матэрыялы неабвержна сведчаць, што вераломна напаўшы на арабскія краіны і акупіраваўшы арабскія тэрыторыі, ізраільскія агрэсары фактычна ставяць сябе па-за законамі, якія вызначаюць нормы адносін паміж дзяржавамі. Няма, бадай, нічога дзіўнага ў тым, што правіцелі Ізраіля дзейнічаюць сёння фашысцкімі метадамі.

Сіянісцкая тэорыя, згодна з якой яўрэі—«богам выбраны народ», радня нацысцкай тэорыі «вышэйшай расы». У Ізраілі растуць рады рознага роду фашысцкіх арганізацый. Да даўно існуючых «Херут» і яе маладзёжнага філіялу «Бейтар» у апошні час дадаліся «Камітэт абароны яўрэяў», «Арыэль», групка «ДБ» (скарачэнне ад «Дзікуй богдым»—«падаўленне здраднікаў»). Пад здраднікамі маецца на ўвазе антысіянісцкі настроеныя ізраільцяне.

Нельга без хвалявання чытаць артыкул Н. Сямёнава «Цана прасвятлення». У ім прыводзяцца вытрымкі са шматлікіх пісьмаў, якія прыходзяць у Савецкі Саюз ад былых савецкіх грамадзян, што ўзяліся на прыманку і паехалі на «зямлю абетаваную», дзе «дэмакратыя і свабода», дзе «сапраўдны рай». Розны лёс у іх аўтараў. Пісьмы адчаю і шкадавання. Так рассыпаюцца ў пух і прах міфы аб райскім жыцці, адзіным яўрэйскім народзе, без класавых, расавых, саслоўных і іншых адрозненняў.

Пісьмы людзей, якія расчараваліся ў капіталістычнай рэчаіснасці Ізраіля, выклікаюць не толькі жаль да іх аўтараў, але і абурэнне.

З сусветнага сіянізму, які знаходзіцца на службе імперыялістычнай рэакцыі і антыкамунізму, неабходна сарваць маску, каб перад усім светам раскрыць яго звярынае аблічча.

Гэтай важнай мэце служыць таксама і кніга «Рэакцыйная сутнасць сіянізму».

**М. НАВІЦКІ.**

«Рэакцыйная сутнасць сіянізму». Зборнік матэрыялаў. Выдавецтва палітычнай літаратуры. Масква. 1972 год.

# У КАЛЕЙДАСКОПЕ ВЫПАДКОВАСЦЕЙ

РЭАЛЬНЫ, жывы факт, дакумент заваёўвае ўсё больш самастойнае месца ў мастацкай літаратуры. Нездарма такую вялікую папулярнасць у масавага чытача набылі ў апошні час мастацкія нарысы, мемуары, дакументальная проза. «Як у кіно», «як у кніжках» — не толькі прахадная іранічная фраза. У ёй адбіваюцца скептычныя адносіны чытача да некаторых твораў мастацтва, аўтары якіх, пад выглядам «творчага асэнсавання», падтасоўваюць факты рэальнага жыцця, каб даказаць або заведама фальшывую, або празмерна «правільную» агульную ідэю.

Аповесць В. Мысліўца «Гарачая сталь» сведчыць аб свядомым імкненні маладога пісьменніка пераносіць з'явы і падзеі рэчаіснасці ў твор амаль у натуральным выглядзе, арыентавацца на рэальныя здарэнні, на жывых людзей, грунтавацца на асабісты працоўны і жыццёвы вопыт. Нядаўні рабочы, В. Мыслівец добра ведае жыццё і працоўныя будні рабочых, падтрымлівае, як бачна з яго нарысаў, пастаянную сувязь з пэўнымі заводамі, цэхамі, брыгадамі, асобнымі людзьмі. Ён не адмаўляецца ад вопыту, набытага ім у час працы ў жанры нарыса, наадварот — шырока выкарыстоўвае яго.

У намаганнях аўтара быць верным натуры тоіцца гарачая палеміка з творамі, у якіх, на яго думку, гэтая натура скажаецца. Вось яго герой ідзе рэальнай «палявой сцяжынкай між жытоў» побач з «дзікаватай Валечкай, што не дазваляе да сябе дакранууцца», і здзіўляецца: «Дзе ж драматычны парыў закаханых? Дзе непасрэдная ўзнёсласць? Дзе элегічная задуменнасць? Дзе псіхалагічны роздум? Так толькі ў кніжках!»

Паглядзім, як жа ў кніжцы В. Мысліўца.

Праўду жыцця можна перадаць толькі з дапамогай творчага ўяўлення, яно адыгрывае галоўную ролю ў адборы, асэнсаванні і творчым пераўвасабленні жыццёвага матэрыялу ў новыя якасці, без яго мастацтва зводзіцца да плоскага капіравання натуры. Але вось (як бы аспрэчвае падобныя сцвярджэнні В. Мыслівец) жыццё і лёс аднаго звычайнага чалавека — рабочага Мішы Магната. Яно гаворыць само за сябе і не патрабуе нейкага асаблівага домыслу, каб зразумець яго сэнс. Кожны, знешне нават просты, эпізод настолькі значны, што ўсю глыбіню яго зместу нельга вычарпаць, тым больш пры дапамозе домыслу, які можа ўнесці непажаданую суб'ектыўнасць меркаванняў і ацэнак, звузіць, спрасціць з'яву, сказіць праўду жыцця. Дык лепш перадаць яго такім, які ён ёсць у самім жыцці, з усёй яго рэальнай шматзначнасцю і глыбінёй. У кнігах — вострa закручаныя сюжэты, а ў жыцці... Вось хаця б той жа Міша Магнат. Працуе, імкнецца выконваць і перавыконваць пастаўленыя перад ім заданні, непакоіцца, чаму спыніўся адзін з яго станкоў... Адзін у яго недахоп: за вытворчымі клопатамі забывае пра людзей, разам з якімі працуе. Яго больш трывожаць «цёпленькія рэгулятары», чым «гарачая сталь» — людзі. Але ў цэлым ён з тых, хто называюцца станоўчымі. І, вядома, лёгка можа перайначыцца пад уплывам асяроддзя ў лепшы бок. А жыццё — неспакойнае, хуткаплыннае — у адзін дзень прыносіць Магнату тры навіны: сапсаваўся станок, арыштавалі яго майстра Сабатажніка, у якім нехта пазнаў былога паліцая, сам ён не паразумеўся з каханай Валечкай.

Паехаў у вёску да бацькоў — супакоіцца, загаіць раны душы. А там—яшчэ адно «страшнае выпрабаванне — адзінота». Усё гэта ўзварушвае пачуцці і думкі героя. Памяць вядзе яго ў далёкае і блізкае мінулае: калектывізацыя (яна супадае з годам нараджэння героя і вядома яму больш з расказаў старэйшых), вайна (дзяцінства, апаленае ёю), пасляваенныя гады (школа, служба на флоце, першае каханне, праца на заводзе...). Адбываецца працэс «ачышчэння ўспамінамі». Герой становіцца больш уважлівым да людзей, больш глыбокім і чулым. Ён пачынае ўсведамляць, што самае галоўнае — людзі, якія працуюць на станках, а не станкі.

Ну, а чытач? Ці змяніўся хоць на каліва ён, прачытаўшы яшчэ адну кнігу? Скажу пра сябе: я набыў сякую-такую інфармацыю пра жыццё рабочых, але ў сэрцы маім зварушылася мала што. Чаму?

Таму, думаецца, што аўтар толькі намякнуў на працэс духоўнага абнаўлення героя і не паспрабаваў заглыбіцца ў яго. Ён не матываваў, чаму герою прыходзіць на памяць той ці іншы эпізод яго жыцця, як ён адносіцца да свайго мінулага. Праходзячы міма «непасрэднай узнёсласці», «элегічнай задуменнасці», «псіхалагічнага роздуму» (усяго таго, што ўласціва жывому чалавеку, калі ён нанава перажывае сваё жыццё), В. Мыслівец прамінуў і тую глыбіню, на якую ён намякае. Атрымалася больш-менш добрасумленная стэнаграфія малюнкаў мінулага ў іх часавай паслядоўнасці. Прычым, выбар гэтых малюнкаў найчасцей выпадковы: «Паслухай, стары, яшчэ адну тваю і маю аповесць...» У аповесці няма адчування абавязковасці таго або іншага элемента, эпізода, вобраза ў сістэме цэлага. Сам аўтар часам губляецца, у якім месцы перапыніць апавяданне пра сучаснае, каб уставіць успамін пра мінулае.

Як вядома, творчае асэнсаванне фактаў пачынаецца з выбару жыццёвага матэрыялу, з таго, што пісьменнік заўважае нейкі факт, вобраз, вылучае яго з шэрагу іншых фактаў і вобразаў, засяроджваецца на ім, ідзе ў яго глыбіню. Ва ўсім гэтым у В. Мысліўца пануе закон выпадковасці. Вось, напрыклад, апісанне таго, пра што думае герой: «І чаго толькі няма ў нашым садзе! Пчолы гудуць, мікробамі поўзаюць па белі... Вясновы мёд самы лепшы. Формулу ліповага ці грэчневага ніяк не ўстановяць. А вясновага тым больш... Малекулы, вядома, з атамаў. Электроны, прато-

В. Мыслівец. «Гарачая сталь». Аповесць. Выдавецтва «Беларусь» Мінск 1971.

